ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 63 (1597) | Пятніца, 11 жніўня 1961 года | Цана 4 кап.

## ПРАВІЛЬНА, МІКІТА СЯРГЕЕВІЧ! — ГАВОРАЦЬ САВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ

Хто чытаў выступленні і прамовы дзяржаўных дзеячоў Захаду, не мог не заўважыць адну іх якасць, якую хочацца назваць словаблуддзем. Такое ўражанне, быццам цябе хочуць, як шчупака, павадзіць на спінінгу да страты сіл, каб потым, са змучаным да канца, лягчэй было саўладаць. І куды толькі ні павядуць — і да ўсявышняга, і на той свет, адно — ніяк не пушчаюць не грэшную зямлю, на дарогу праўды. А ўрэшце — што ж зробіш іншае, калі трэба чорнае выдаць за белае і наадварот.

І вось — голас кіраўніка Савецкай краіны. Ясна, упэўнена, шчыра і — да канца пераканаўча. Таму што не логіка сафізмаў пануе ў ім, а логіка жыцця, гісторыі, вялікай чалавечай праўды.

Седзячы вечарам сёмага жніўня ля тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў, чытаючы назаўтра ў газетах выступленне Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, прысвечанае ўнутранаму і міжнароднаму становішчу нашай дзяржавы, савецкія людзі яшчэ раз адчулі, як суладна б'юцца іх сэрцы з сэрцам роднай партыі. Тое, што сказаў М. С. Хрушчоў, адзываецца поўнай згодай у глыбінях душы кожнага сумленнага чалавека.

З пачуццём радасці і гордасці гаварыў Мікіта Сяргеевіч аб добрых справах у нашай прамысловасці і сельскай гаспадарцы, аб бяспрыкладным подзвігу касманаўта Германа Цітова, аб бліскучых перспектывах, якія адкрывае перад чалавецтвам праект новай Праграмы нашай партыі. І гэтую гордасць і радасць падзялялі мы ўсе. Іронія гучала ў яго голасе, калі ён гаварыў аб імперыялістычных клікушах, якія ўжо неаднаразова селі ў галёш, прадракаючы нязбытнасць нашых планаў. І мы таксама не маглі не настроіцца на іранічны лад. З гневам і абурэннем выкрываў ён антычалавечую палітыку імперыялістычных заправілаў, якія хочуць зноў кінуць свет у крывавую бойню. І гэта — гнеў і абурэнне ўсяго савецкага народа.

Пачуццё шчырай удзячнасці роднай партыі і ўраду за нястомны клопат аб міры на зямлі, аб светлай будучыні чалавецтва, жаданне ўрачыста заявіць аб непахіснай вернасці справе камунізма, рашучы пратэст супраць крывавых замыслаў падпальшчыкаў вайны прывялі савецкіх людзей на мітынгі і сходы, якія магутнай хваляй пракаціліся ў гэтыя дні па гарадах і вёсках краіны.

Сваё важкае слова сказалі на іх і працоўныя Савецкай Беларусі — рэспублікі ратнай і будаўнічай славы.

Выступленні ўдзельнікаў і рэзалюцыі сходаў і мітынгаў прасякнуты бязмежнай верай у мудрасць міралюбівай палітыкі Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, гатоўнасцю падтрымліваць і ажыццяўляць яе да канца.

— Пад кіраўніцтвам любімай ленінскай партыі, — заявіў на мітынгу калектыву магілёўскага завода «Электрарухавік» кіраўнік брыгады камуністычнай працы Л. Вяракса, — мы паспяхова будуем светлы будынак камунізма, асвойваем касмічную прастору. Мы бязмежна любім сваю Радзіму, ганарымся яе выдатнымі поспехамі. І няхай ведаюць імперыялісты Захаду, што, калі яны адважацца развязаць новую вайну, то ў магутным сацыялістычным лагеры знойдзецца даволі сродкаў, каб да канца знішчыць іх.

Нам не патрэбна вайна. Мы ўпэўнены ў перамозе нашага ладу шляхам мірнага эканамічнага спаборніцтва з капіталізмам. Савецкі народ хоча сустракацца з іншымі народамі не на полі бою, а на кірмашах і творчых канферэнцыях, урачыстых дэманстрацыях і за бяседнымі сталамі. Пасылаць на чужую тэрыторыю не ракеты з вадароднымі і атамнымі галоўкамі, а паязды дружбы. Напаўняць эфір не сігналамі ваеннай трывогі, а сігналамі касмічных караблёў. Абменьвацца з іншымі краінамі не поўнымі трывогі нотамі і мемарандумамі, а поўнымі гуманных пачуццяў кнігамі і кінафільмамі. Мы хочам, каб над палямі, якім прызначана радзіць хлеб, ліўся не смяротны свінец, а толькі жыватворчы дождж.

Мы не толькі хочам гэтага, але і патрабуем і дабіваемся, добра ведаючы свае сілы і магчымасці, глыбока ўсведамляючы сваю адказнасць перад народамі ўсяго зямнога шара. Погляды прагрэсіўнага чалавецтва скіраваны сёння на краіны сацыялістычнага лагера. У ім бачаць людзі абаронцу будучыні, на яго спадзяюцца, калі задумваюцца аб сваім заўтрашнім дні, аб сваёй бяспецы, аб шчасці сваіх нашчадкаў.

Савецкаму народу не раз даводзілася ўжо спыняць крывавую руку імперыялізму, занесеную над светам. Гэта нялёгка, гэта дастаецца калі не шматлікімі жыццямі, то надзвычайным напружаннем энергіі, волі, патрабуе вялікіх матэрыяльных ахвяр. Але ён, наш народ, выхаваны партыяй Леніна ў духу палымянага патрыятызму і інтэрнацыяналізму, дзеля вялікай мэты не палічыцца ні з чым. Прыслухайцеся, гарматныя каралі і уолстрытаўскія таўстасумы, што сказала звычайная савецкая дзяўчына Таіса Прыгодзіч, якая робіць мінскія аўтамабілі.

— Разам з усім савецкім народам, — сказала яна, — мы, маладыя аўтазаводцы, будзем нястомна працаваць у імя міру, аддадзім увесь запал сваіх сэрцаў, усю сілу сваіх маладых рук, каб прадухіліць новую вайну, захаваць мір.

Няхай дойдзе да вас голас віцебскага станкабудаўніка П. Бахціна, які носіць гордае званне ўдарніка камуністычнай працы.

— Не жартуйце, панове імперыялісты, з агнём, — сказаў ён.— Гора будзе тым, хто парушыць спакой нашага народа-стваральніка, народа-героя.

Загляніце, панове, у паток паведамленняў аб мітынгах і сходах, якія адбыліся ў гэтыя дні ў нашай краіне, і вы з усёй сілай адчуеце адзінадушнасць народа. А што такое адзінадушнасць народа, адухоўленага вялікай любоўю да радзімы і палкай нянавісцю да ворагаў, найбольш пераканаўчымі для вас сродкамі паказала наша барацьба супраць фашысцкіх варвараў. Улічыце, што тыя, хто стаяў у гэтыя дні ў цесных натоўпах на мітынгах, — калі не ўдзельнікі гэтай барацьбы, то надзейныя пераемнікі баявых традыцый сваіх бацькоў. Савецкія людзі — людзі высокага гарту. Яны ўзнімаюцца сёння на трыбуны не дзеля практыкаванняў у красамоўстве.

Токар Мінскага трактарнага завода Э. Кулік з задавальненнем карыстаецца дадатковымі выгодамі, якія прынесла скарачэнне рабочага дня. Ды хто ж супраць лішняй гадзіны вольнага часу?! Але, устрывожаны ваеннай небяспекай, ён заяўляе:

— Калі трэба будзе для ўмацавання абараназдольнасці нашай краіны, мы пяройдзем на васьмігадзінны рабочы дзень.

Такую гатоўнасць выказалі калектывы многіх прадпрыемстваў.

Заўчора вечарам неба над сталіцамі нашых саюзных рэспублік і гарадоў-герояў азарылася ўспышкамі ўрачыстага салюта ў гонар новай вялікай перамогі савецкага народа на шляху заваявання космасу. Слухаючы гарматны гром, відаць, кожны з нас думаў: няхай гарматы гавораць толькі з гэтай прычыны, у гонар нашых працоўных перамог і мірных свят. Мы ў свой час шчыра радаваліся салютам, якія асвятлялі ратныя подзвігі нашых воінаў на палях Вялікай Айчыннай вайны. Але мы не хочам больш той радасці, якая прыходзіла праз смерць і кроў родных і блізкіх.

«Усе мы заняты мірнымі справамі, рыхтуемся да XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, з'езда, сэнс якога будзе заключацца ў тым, што ён зацвердзіць далейшыя грандыёзныя мірныя планы нашага жыцця.

Няхай усе ведаюць, што мы і ў далейшым будзем упарта працаваць у імя міру, што ўвесь савецкі народ узніме свой голас, накіруе свае сілы, каб папярэдзіць узнікненне новай вайны, захаваць мір».

— Правільна, Мікіта Сяргеевіч! — адзінадушна заяўляюць савецкія людзі ў адказ на гэтыя словы кіраўніка партыі і ўрада, нястомнага змагара за мір і шчасце народаў.

## НЕАБСЯЖНЫ ПРАСТОР

У нашай краіне ўпершыню ў гісторыі чалавецтва будуецца самае дасканалае і самае справядлівае ў свеце грамадства — камунізм. І сённяшняя ўсхваляванасць людзей, выкліканая праектам Праграмы, зразумелая, бо камунізм становіцца рэальнасцю, як рэальнымі сталі сёння палёты нашых легендарных касманаўтаў у космас. «Пабудова камуністычнага грамадства, — гаворыцца ў праекце Праграмы, — стала непасрэднай практычнай задачай савецкага народа. Паступовае перарастанне сацыялізма ў камунізм — аб'ектыўная заканамернасць; яно падрыхтавана ўсім папярэднім развіццём савецкага сацыялістычнагаа грамадства».

Чытаючы гэтыя словы, разумееш, якую адказнасць нясе кожны камуніст, кожны сумленны савецкі чалавек на сваім участку працы. І кожны сёння павінен спытаць у сябе: ці гатовы я сваёй працай наблізіць светлую эру чалавецтва?

Гэтую асабістую адказнасць, пра якую гаворыцца ў праекце Праграмы, павінен адчуць сёння савецкі чалавек, бо пра яго — усе думы і клопаты партыі.

Мы, кінаработнікі, таксама працуем у імя і на карысць чалавека. Выхаванне савецкага чалавека, раскрыццё ўсяго лепшага, што ў ім ёсць, — наша найпершая задача. Савецкая кінематаграфія — вялікі прапагандыст камуністычных ідэй, летапісу эпохі.

А якая вялікая задача — дапамагчы нашаму чалавеку ў яго гарманічным развіцці!

Неабсяжныя творчыя прасторы, на якія выходзіць сёння савецкая кінематаграфія. Яны велічныя, неаглядныя. Планы нашы захапляючыя. Мы будзем вырашаць іх у поўнай садружнасці з пісьменнікамі, майстрамі чалавеказнаўства, і разам з імі будзем ствараць фільмы, якія ўвойдуць у залаты фонд эпохі камунізма.

**Ул. КОРШ-САБЛІН,**
**кінарэжысёр,**
**народны артыст БССР.**

## СВЯТА ЛІТАРАТУР

**Гутарка з сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў РСФСР Сяргеем Сартаковым**

— Радасныя, хвалюючыя дні, — сказаў Сяргей Венядзіктавіч у гутарцы з карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва», — перажывае наша Радзіма. Толькі нядаўна ў друку былі апублікаваны важнейшыя дакументы сучаснасці — праекты Праграмы і Статута КПСС, а цяпер сэрцы людзей усхвалявала новая вестка. Свет захапляецца бяспрыкладным у гісторыі касмічным палётам на караблі «Усход-2» слаўнага героя, лётчыка-касманаўта Германа Цітова. Свет з вялікай увагай прыслухоўваецца да голасу Масквы, якая вуснамі Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, што выступіў днямі па радыё і тэлебачанню, горда заяўляе: «Падобна на тое, як з кропель складаецца акіян, з намаганняў мільёнаў савецкіх людзей складаецца магутнасць савецкай дзяржавы. У гэтым зарука нашых перамог у камуністычным будаўніцтве».

Нам, пісьменнікам Расійскай Федэрацыі, аднолькава дарагія поспехі братніх народаў вялікага Савецкага Саюза. Рускія пісьменнікі з вялікай увагай сочаць за тым, як развіваецца эканоміка і культура нашай добрай сястры і суседкі — Савецкай Беларусі, з мастацкай інтэлігенцыяй якой мы даўно звязаны вузамі вялікай творчай дружбы. Таму цяперашні Тыдзень рускай літаратуры ў Беларусі мы разглядаем як свята дзвюх братніх літаратур, аб'яднаных агульнасцю ідэй і задач.

Чытачам газеты «Літаратура і мастацтва», вядома, цікава ведаць, як развіваецца наша руская савецкая літаратура, якія яе поспехі. Скажу коратка: мы, члены праўлення і сакратарыят Саюза пісьменнікаў РСФСР, задаволены тым становішчам, якое склалася цяпер у нашым творчым саюзе. Пісьменнікі старэйшага, сярэдняга і малодшага пакалення працуюць зараз з такой жа вялікай творчай напружанасцю, як і ўвесь шматмільённы савецкі народ, які рыхтуе дастойную сустрэчу XXII з'езду КПСС. Хочацца адзначыць, што нашы пісьменнікі, якіх у творчым саюзе звыш 2500 чалавек, пішуць на 55 мовах, працуюць у многіх гарадах, абласцях, краях і аўтаномных рэспубліках. Яны ствараюць кнігі пра наша кіпучае і бурнае жыццё, прысвячаючы іх, галоўным чынам, нашаму сучасніку — савецкаму чалавеку.

Я мог бы назваць дзесяткі імён усім вядомых пісьменнікаў, якія радуюць чытача сваімі высокамастацкімі творамі. Але мне здаецца, што пра творчыя справы падрабязна раскажуць мае калегі — тыя пісьменнікі, якія ў складзе нашай дэлегацыі прыедуць на Тыдзень рускай літаратуры ў Беларусь.

Думаю, што творы таварышаў, якія прыедуць у Беларусь, знаёмы вашаму чытачу гэтак жа, як і члены нашай дэлегацыі добра знаёмы з Беларуссю і яе людзьмі, дружаць з беларускімі пісьменнікамі. Мікалай Грыбачоў, Анатолій Сафронаў, Міхаіл Святлоў у свой час жылі і працавалі ў Беларусі. Многія рускія пісьменнікі ў гады Вялікай Айчыннай вайны разам з воінамі Савецкай Арміі і беларускімі партызанамі абаранялі зямлю Беларусі гэтак жа самаахвярна, як і сваю родную рускую зямлю. Таму сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі і працоўнымі рэспублікі прынясуць нам вялікае задавальненне, узбагацяць нас новымі, свежымі ўражаннямі, а Тыдзень рускай літаратуры, я ў гэтым перакананы, будзе садзейнічаць новаму творчаму ўзлёту ў развіцці абедзвюх літаратур.

Да хуткай сустрэчы ў Беларусі, дарагія сябры!




Малюнак Л. ЗАМАХА.

## РАДЗІМА ВІТАЕ ГЕРОЯ

Вясновым днём 12 красавіка першы ў свеце лётчык-касманаўт Юрый Гагарын адкрыў зорны шлях у Сусвет савецкім касмічным караблям

А дзень 6 жніўня зноў скалануў нашу планету. Лётчык-касманаўт Герман Цітоў праляцеў у касмічнай прасторы звыш 700 тысяч кіламетраў, абляцеўшы вакол зямнога шара больш семнаццаці разоў! Неверагодна? Так! Але ж мы, савецкія людзі, нарадзіліся ў незабыўным 1917 годзе, каб казку зрабіць явай... Мудрая ленінская партыя вядзе нас ад перамогі да перамогі, ад адной вяршыні творчага ўзлёту да другой. Такі ўжо закон гісторыі: рэвалюцыя і самыя смелыя ўзлёты чалавечага розуму і волі непадзельныя.

Уся планета захапляецца бліскучымі поспехамі савецкіх вучоных, інжынераў, тэхнікаў, рабочых, якія стварылі цуда-волаты XX стагоддзя — касмічныя караблі. Увесь свет захапляецца мужнасцю члена ленінскай партыі лётчыка-касманаўта Германа Цітова.

Народ святкуе, народ радуецца. Мора кветак і мора светлых і сонечных усмешак шчаслівых людзей. Радасным і незабыўным быў для савецкага народа дзень 9 жніўня, дзень. калі сталіца нашай Радзімы — Масква сустракала свайго героя, лётчыка-касманаўта Германа Цітова, які праславіў нашу Радзіму сваім выдатным подзвігам.

Сустракаць героя на Унукаўскі аэрадром прыйшлі шматлікія прадстаўнікі грамадскасці Масквы, міністры СССР і Расійскай Федэрацыі, кіраўнікі партыйных і савецкіх арганізацый сталіцы і вобласці, вучоныя, дзеячы культуры.

На аэрадром прыбылі кіраўнікі партыі і ўрада таварышы Л. І. Брэжнеў, М. Р. Ігнатаў, Ф. Р. Казлоў, А. І. Мікаян, Н. А. Мухітдзінаў, Д. С. Палянскі, М. А. Суслаў, М. С. Хрушчоў, Я. Э. Калнберзін, Г. І. Воранаў.

М. С. Хрушчоў, кіраўнікі партыі і ўрада сардэчна віншуюць бацькоў і сваякоў Германа Цітова — маці Аляксандру Міхайлаўну і бацьку Сцяпана Паўлавіча, жонку Тамару Васільеўну.

Калі прызямліўся магутны паветраны лайнер «ІЛ-18» і з яго дзвярэй паявіўся Герман Цітоў, над аэрадромам пракаціўся цэлы шквал прывітальных воклічаў і апладысментаў.

Падняўшыся на трыбуну, маёр Цітоў чотка рапартуе Мікіту Сяргеевічу Хрушчову:

«Таварыш Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Старшыня Савета Міністраў СССР, дакладваю, што заданне Цэнтральнага Камітэта і Савецкага ўрада выканана. На караблі-спадарожніку «Усход-2» шостага і сёмага жніўня 1961 года зроблен 25-гадзінны касмічны палёт. Абляцеў больш як семнаццаць разоў вакол зямнога шара і шчасліва прызямліўся ў дакладна зададзеным раёне.

Усё абсталяванне касмічнага карабля працавала бездакорна. Адчуваю сябе выдатна. Гатоў выканаць любое заданне партыі і ўрада. Маёр Цітоў».

Мікіта Сяргеевіч па-бацькоўску абдымае Цітова, прыціскае яго да сябе, як дарагога і любімага сына нашай Радзімы.

Слаўнаму герою піянеры і школьнікі Масквы падарылі букеты кветак.

Затым урачысты картэж машын праязджае па святочна ўпрыгожанай Маскве на Красную плошчу. Свайго героя з захапленнем і гордасцю вітаюць савецкія людзі. Над людскім морам — чырвоныя сцягі, партрэты кіраўнікоў партыі і ўрада, герояў-касманаўтаў Юрыя Гагарына і Германа Цітова, мноства жывых кветак.

Гарачыя апладысменты пракатваюцца па Краснай плошчы, калі на трыбуне Маўзалея з'яўляюцца таварышы М. С. Хрушчоў разам з касманаўтамі Юрыем Гагарыным і Германам Цітовым, Л. І. Брэжнеў, М. Р. Ігнатаў, Ф. Р. Казлоў, А. І. Мікаян, Н. А. Мухітдзінаў, Д. С. Палянскі, М. А. Суслаў, Я. Э. Калнберзін, Г. І. Воранаў, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР К. Я. Варашылаў.

Пачынаецца мітынг працоўных сталіцы, прысвечаны новай бяспрыкладнай перамозе савецкай навукі і тэхнікі. І вось перад масквічамі, перад поўнымі захаплення позіркамі дзесяткаў тысяч людзей, пачынае гаварыць лётчык-герой Герман Цітоў.

— Савецкі Саюз адкрыў новую эру ў прагрэсіўным развіцці чалавецтва... Мы ганарымся тым, што нашы дасягненні ў асваенні космасу служаць інтарэсам усяго чалавецтва, інтарэсам міру.

Бурныя апладысменты зноў успыхваюць, калі да мікрафона падыходзіць Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС і Старшыня Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчоў.

Мікіта Сяргеевіч сардэчна віншуе лётчыка-героя, ён гаворыць, што недалёкі той час, калі касмічныя караблі, кіруемыя чалавекам, пракладуць трасы да Месяца, да планет сонечнай сістэмы.

Уся сталіца, увесь свет слухаюць упэўненыя словы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова:

«Мы ганарымся сваёй сацыялістычнай краінай, яе поспехамі і з яшчэ большым энтузіязмам будзем працаваць для таго, каб смела ісці наперад, да камунізма.

Як за нашымі першымі касманаўтамі пойдуць іншыя касманаўты нашай краіны і іншых краін, гэтак жа па шляху, які пракладвае савецкі народ у камуністычную будучыню пойдуць усе народы».

Пачынаецца ўрачыстае шэсце масквічоў. Прадстаўнікі ўсіх раёнаў сталіцы выйшлі на дэманстрацыю. Праз Красную плошчу праходзіць працоўная Масква, якая сардэчна вітае адважнага касманаўта.

* * *

Вечарам 9-га жніўня ў Георгіеўскай зале Вялікага Крамлёўскага палаца адбыўся прыём у гонар выдатнага подзвігу вучоных, канструктараў, інжынераў, тэхнікаў і рабочых, якія забяспечылі ажыццяўленне новага палёту чалавека ў касмічную прастору, у гонар лётчыка-касманаўта Германа Сцяпанавіча Цітова, наладжаны ЦК КПСС, Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР і Саветам Міністраў СССР.

## Высокае званне

**За ажыццяўленне выдатнага палёту ў космас на караблі-спадарожніку «Усход-2» Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прысвоіў маёру лётчыку-касманаўту ЦІТОВУ Герману Сцяпанавічу званне ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА з уручэннем ордэна ЛЕНІНА і медаля «ЗАЛАТАЯ ЗОРКА».**

**Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за ажыццяўленне касмічнага палёту на караблі-спадарожніку «Усход-2» грамадзяніну Савецкага Саюза лётчыку маёру Герману Сцяпанавічу ЦІТОВУ прысвоена званне «ЛЁТЧЫК-КАСМАНАЎТ СССР».**

**Аляксандр ПРАКОФ'ЕЎ**

## Вершы аб Расіі

* * *

Мне пра Расію трэба гаварыць,
Ды так, каб вершы ўслых чытаць
прасілі,
Ды так, каб захацелі паўтарыць
Мацней за ўсіх імён імя:
Расія.

Званчэй тых сосен, дзе шумяць
лясы,
Мацней любві, што ў сэрцы
палымнее.
І ты яго на вуснах данясі
К пяючым хвалям, што ўдалі
сінеюць.

* * *

Сам-насам не аднойчы быў
з табой,
Парадай мог і словам
падзяліцца.
Мая ты радасць, лёс
шчаслівы мой,
Мая ты зорка, што святлом
іскрыцца.
Яно мне ззяла ў матчыных
вачах,
І праціна́ла кроў маю не раз.
Калі б святло пагасла
у грудзях, —
Дык сэрца б разарвалася ў той
час.

* * *

Люблю блакіт нябёс тваіх
чароўных —
Няхай не будзе ў памяці забыт:
Магутны дуб сярод нізіны
роўнай,
Тваёй зарой, бы стужкаю, абвіт.

І ён стаіць над ціхаю палянай,
Глядзіць удаль на роўны,
пыльны шлях.
І толькі шрамы ад ліхіх
маланак,
Нібы ў салдата, на яго грудзях.

* * *

Сваю не раз паказваў вораг
сілу,
Ўрываўся ў дом, што полымем
гарэў,
Крычаў, раз'юшаны:
— Канец Расіі! —
Але адчуў ён твой, Расія, гнеў!

Такім магутным і суровым
гнеў быў,
З такой няўмольнай сілай
напятаў,
Што калі б вораг мог узняцца
ў неба,
Дык напаткала б смерць яго
і там!

* * *

*Зноў вярнуўся на зямлю*
*з Сузор'я.*
*М. АСЕЕЎ.*

Ужо ў Сузор'і сцяг наш
прамяністы
Гарыць, як сонца, між другіх
планет.
Ідуць з адкрытым сэрцам
камуністы.
Любіць цябе! — іх вечны
запавет!

Яны сцягі ўздымаюць баявыя,
Што азарылі край мой —
Русь маю.
Яны кляліся зберагчы Расію,
І я пад сцягам клятву ім даю!

Пераклад П. ПРЫХОДЗЬКІ.

## ПРАЦАЙ УПАРТАЙ...

Гэта не мара людзей, а наша рэальная сапраўднасць — па зямлі крочыць камунізм, ідзе як усёпераможная сіла, як жывая заканамернасць, абумоўленая ўсім ходам гістарычнага развіцця чалавецтва.

Ідзе камунізм! Мы яго будуем. Мы накіроўваем яго хаду пад кіраўніцтвам ленінскай партыі. Праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкагаа Саюза, як сонца асвятляе шлях народам да новых, дасюль нябачаных перамог па шляху будаўніцтва цудоўнага жыцця.

Кожны наш дзень напоўнены кіпучай стваральнай працай. Кожны наш дзень багаты яркімі падзеямі. Увесь свет сёння апладзіруе герою-касманаўту Герману Цітову, апладзіруе вялікай краіне-першаадкрывальніцы новага свету—свету камунізма.

Новае камуністычнае грамадства, якое мы будуем, нясе небывалы росквіт эканоміцы і культуры. Мы электрыфікуем усю нашу краіну, скіруем воды рэк у стэпы і пустыні, прымусім сілы прыроды служыць чалавеку, створым невычарпальнае багацце прадуктаў працы і забяспечым іх размеркаванне па патрэбнасцях. Усё для чалавека, усё для задавальнення яго матэрыяльных і духоўных патрэб!

Радасна жыць і працаваць, калі бачыш перад сабой такія грандыёзныя перспектывы. Наша пакаленне будзе жыць пры камунізме.

Ведаем мы — што ўжо не за
гарамі
Светлы наш, радасны дзень.
Працай упартай, сваімі рукамі
Шчасце наблізім людзей!

**Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ.**

## УЗЛЁТ ЧАЛАВЕЧАГА ГЕНІЯ

Краіна казачных цудаў! Краіна казачных узлётаў чалавечага генія! Так называюць цяпер нашу вялікую Радзіму людзі добрай волі ва ўсім свеце. Яшчэ, здаецца, не ўлягліся радасць і захапленне, якія перажывалі народы планеты 12 красавіка 1961 года, калі ўпершыню ў гісторыі чалавецтва наш савецкі чалавек Юрый Гагарын здзейсніў бяспрыкладны палёт у бязмежныя прасторы космасу.

Не прайшло і чатыры месяцы, а сёння свет узрушаны новым, нечуваным подзвігам савецкага чалавека. Мужны сын Камуністычнай партыі Герман Цітоў на касмічным караблі-спадарожніку «Усход-2» больш сутак знаходзіўся ў касмічнай прасторы. Гэта самы працяглы палёт чалавека ў космас. Лётчык-касманаўт увесь час адчуваў сябе вельмі добра. Ён натхнёна працаваў, адпачываў, рабіў фіззарадку, снедаў, абедаў і вячэраў, нібы ехаў у купэ звычайнага пасажырскага поезда. Падтрымліваў з зямлёю рэгулярную сувязь. І як усе мы рады, што наш савецкі лётчык-касманаўт шчасліва прызямліўся, што ён вясёлы і бадзёры. Мы ганарымся і тым, што на працягу ўсяго палёту касмічнага карабля-спадарожніка «Усход-2» бездакорна працавалі ўсе яго сістэмы, усё абсталяванне. Гэта вынік творчага генія нашых вучоных, вынік выдатнай садружнасці навукі з тэхнікай, з вытворчасцю, вынік вялікіх і дружных намаганняў калектыву інжынераў, тэхнікаў, рабочых, якія працавалі над стварэннем касмічнага карабля-спадарожніка.

Слава вам, творцам цуда-волатаў — касмічных караблёў!

**З. СЯРГЕЕВА,**
**дырэктар кінатэатра «Цэнтральны» г. Мінска.**

# У светлае заўтра мы разам ідзём

## удзельнікам Тыдня рускай літаратуры ў Беларусі

# РАЗМОВА З РУСКІМ ПАЭТАМ

*Мой первый друг,*
*Мой друг бесценный...*
*А. ПУШКІН.*

**Анатоль ВЯЛЮГІН**

Даўно я хацеў пазнаёміць цябе з гэтай дарогай.

Вось ён, паваротак на Віцебск.

Няспасвенае лета маладзіцца ў лугах; рассунуўшы алешнік, жмурыцца на сонцы рэчка. А насыпы ў белых зорах рамонку. Пескаватыя пагоркі, і сасоннік на іх, і струмені ярай смалы. Разгараецца верас...

Дарога ў казку майго маленства.

Ці не яно гэта, зарошанае, выходзіць з лесу? У руцэ кошык чырвонагаловых падасінавікаў. Аўсяны чуб, быстры і востры зрок, такі пагодны зрок, ажно паяснела неба над пералескам.

Не! Маё маленства з кошыкам грыбоў дзесьці заблудзілася ў нечапанай нетры — на сэрцы светла ад бярозак на цёплых баравінах і не хочацца выходзіць на вятрыстую дарогу.

Бачыш, направа, за мураванаю сцяною — старая каменіца. Колькі год стаіць яна?

Гэта дарога ў гісторыю майго краю.

За мураванаю сцяною — двор дарожнага наглядчыка. Старая паштовая станцыя. Тут спыняўся Аляксандр Пушкін. І менавіта на гэтай станцыі.

Помніш дарожныя нататкі Івана Пушчына?

Ён тады пісаў пра гэты шлях: «Беларускі тракт жахліва сумны. Не сустракаючы нікога на станцыях, я звычайна заглядваў у кнігу для запісу падарожных і там шукаў праезджых. Бачу раз, што напярэдадні праехаў Пушкін у Екацярынаслаў. Пытаюся ў наглядчыка: «Які гэта Пушкін?» Мне і думка не прыходзіла, што гэта можа быць Аляксандр. Наглядчык гаворыць, што гэта паэт Аляксандр Сяргеевіч едзе, здаецца, на службу, на перакладных, у чырвонай рускай кашулі, у апаясцы, у паяркавым капелюшы (Час быў жахліва гарачы)».

Мінаючы двор дарожнага наглядчыка, я часта думаю аб тым часе.

Яшчэ не ўдарыў стрэл Дантэса,
яшчэ ў прасторы не заціх
з Міхайлаўскага да Адэсы
калёсны гром перакладных.

І, чуючы рачныя тоні
за густалістым дубняком,
храпуць узмыленыя коні;
клубіцца пыл над бальшаком.

Сыходзе ўбок жабрак пахілы,
глядзіць паштовай тройцы
ўслед...
Ад горкіх дум, а не ад пылу
ў дарозе пасівеў паэт.

І тут, і тут царом распяты
зямля і воля на крыжы,
і, як жабрак, з мальбою хаты
глядзяць услед:—Дапамажы...

Мільгаюць хаты ў пыльнай веі
ды паласатыя слупы.
Прыгонныя спяваюць жнеі,
чужыя вяжучы снапы...

Беларускі тракт... Новаму часу не патрэбны перакладныя, восемдзесят стаеннікаў запрэжана, і чатырохколка вокамгненна мінае паштовую станцыю на маторнай хуткасці, і нідзе не прыкмеціш жахлівага суму: перад табою разгорнута залатая кніга мае Радзімы.

Дажынаюцца апошнія кліны. І там таксама маторы. Глядзі, за штурвалам бялее хусцінка. Гаспадыня поля. Без пагарды і зайздрасці паглядзіць яна на дарогу, дзе спяшаецца час, і час яе не абгоніць, і не абміне шчасце гаспадыню поля. Царыца дажынак **карануе песняй залатое жніва.** Чуеш?

Сэрца, сэрцайка маё
Б'ецца цераз грудку.
Як жа хлопцам не кахаць
Такую галубку?..

Гэта дарога ў беларускую мову.

Я ведаю, як ты шануеш яе, маю родную мову. Кажаш, яна заўсёды дапамагае табе адшукаць глыбіннае роснае слова? Так, яна захавала першародны змест і чысціню слова. Быццам глыбокае карэнне стагодніх дубоў-суседзяў, даўно пераплялося карэнне нашых моваў, і сёння гэтак высока і вячыста шуміць век-вечна зялёная крона майго слова. А калісьці гэтае слова выпламянялі агнём, паласавалі бізунамі, душылі на шыбеніцах, знішчалі алоўкам цэнзара.

Толькі гісторыя ў няспыннай сваёй хадзе інакш глядзела на бясспрэчныя рэчы і непарушныя ісціны.

У парыжскай эміграцыі Уладзімір Ільіч Ленін ставіў перад сабою як адну з чарговых задач — дэталёва пазнаёміцца са славянскімі культурамі і мовамі, у прыватнасці з беларускаю і ўкраінскаю. Ён склаў сабе вялікі спіс неабходных кніг, сярод якіх былі «Гісторыя рускай этнаграфіі» Пыпіна (том IV — «Беларусы»), «Параўнаўчая марфалогія славянскіх моваў» Міклошыца, «Лекцыі па славянскаму мовазнаўству» Фларынскага.

Максім Горкі на далёкім Капры пачуў грымоты купалаўскага гімна, пераклаў «А хто там ідзе?» на рускую мову.

Амаль усе дарэвалюцыйныя купалаўскія кнігі друкавалі піцерскія рабочыя. Сапраўды, патрэбен быў вялікі Янка Купала, каб на ўвесь свет загучала наша слова.

Мы з табой на дарозе Янкі Купалы.

Хай жа твае пераклады, мой дружа, гучаць, як рэха разгуканых лясоў, далін і дарог мае зямлі, гучаць на ўвесь свет, бо сягоння руская мова — трыбуна свету; і кожны з нас гаворыць на матчынай мове і з далёкімі народамі, і з высокімі зорамі.

Гэта дарога ў беларускую паэзію.

Толькі што мы закончылі вялікую работу: складзены, адрэдагаваны і сёлета выйдуць з друку тры тамы «Анталогіі беларускай паэзіі». Тры тамы летапісу жыцця народа, ягонай гераічнай працы і барацьбы. Цудоўны здабытак нашай культуры. Трэба падумаць, дарагі дружа, пра больш поўнае выданне беларускай анталогіі ў Маскве. Цяпер гэта лёгка зрабіць: усё сабрана, як след узважана. У ранейшых рускіх выданнях — ленінградскім і маскоўскім — прапушчана многа імён і твораў, якія маюць прынцыповае значэнне. Як пісаў Смелякоў,

я не о тех золотоглавых
певцах отеческой земли,
что пили всласть из чаши
славы
и в антологии вошли.

Ты ведаеш нашых добрых паэтаў, дружыш і знаёмы амаль з усімі — я не буду пералічаць імёны. Толькі як не згадаць тут на гэтай дарозе, каля старой паштовай станцыі, вялікую паэму Сяргея Дзяргая «Пушкін на шашы Энтузіястаў», над якою сціплы чалавек і сапраўдны паэт працаваў каля дзесяці год, як не ўспомніць яго выдатныя пераклады «Дванаццаці» Блока, «Сініх гусараў» Асеева, вершаў Багрыцкага і Лугаўскога.

Я пазнаёмлю цябе з усім. Жнівень — пара спеласці. Будзем уважліва чытаць залатую кнігу зямлі. Не вежы дубоў і замкаў маячаць у небе бацькаўшчыны — тэлевышкі, каміны заводаў, а ў бронзавых рамах бароў — белыя соты гарадскіх палацаў.

Гэта дарога ў паэзію жыцця.

Штохвілінна трэба трымаць руку на пульсе краіны. Дні змяшчаюць цяпер столькі, колькі раней не змяшчалі стагоддзі. За дзве гадзіны перакрываецца Дняпро. Нам падуладна бяздонная цемра космасу. Нялёгкая доля цяпер у летапісцаў. Трэба спяшацца, трэба жыць на хуткасці часу. Уся зямная куля выходзіць цяпер на арбіту агульначалавечага шчасця: гэта сцвярджае кожны радок праекта Праграмы камунізма. Мы чуем хваляванне натхнёнага кубінца Нікаласа Гільена: «Мне здаецца бясплённым паэт, які не мае сілы перадаць у лірыцы змест праграмы ці маніфеста»...

У доме хлеб, і ружы каля дома;
святло акон, святло душы
людской,
калоссе ніў і дум; зямлі
спакой;
трывожнае праменне
касмадрома;

мантаж турбін, вясёлы гул
прарана,
агні, якім не гаснучы зарэць,
і сталь, якой на зорах
не згарэць, —
усё змясціла новая
Праграма!

Кручча крычыць. Любоў
глядзіць з надзеяй.
У свеце музыка гучыць.
Курантаў бой...
Наш будзень вечнай выспее
нядзеляй,
калі мы спраўдзім гэткае
з табой.

Любы браце! На дарозе Пушкіна і Купалы стаіць наша дружба.

Як аркестр, грыміць сталёвы мост над ракою майго маленства, над маёй зачараванай Лучосай, і вятрыстая хуткасць часу грукоча над цёплым буркаваннем галубоў: яны гняздзяцца тут пад мостам, дзе высока над вадою спляліся трывалыя бэлькі, яны п'юць чыстую мяккую ваду зачараванай Лучосы.

Хто не паверыць гэтаму цуду, няхай спыніцца па дарозе на Віцебск, за старою паштоваю станцыяй: грыміць мост над ракою і чуваць цёплае буркаванне ды шаўковы лопат крылляў.

Тут мы з табою стаім і ўсё, як ёсць, чуем.

І добра, што мы думаем, як дзеці.

І добра, што мы, як дзеці, верым у шчасце.

---

ваўся гаркаваты смак пяра, і плакала, плакала... Цяпер усе жаданні, што не збыліся, уся туга аб гарачых мужчынскіх руках узнімаецца ў ёй, і ёй здаецца, што стук яе сэрца, як крык перапёлкі, можна пачуць у вёсцы.

— Ягор Ягоравіч...

— Што, Марына?

— Я не магу, Ягор Ягоравіч...

— Пра што ты?

— Я не пайду за цябе...

Наступае цяжкое маўчанне. У цішы ночы яшчэ мацней пахне палын і яшчэ больш настойліва гаворыць вада: «Паслухайце вы, людзі, я нешта ведаю...»

— Так, — здаўлена мармыча Ястрабаў, — Разумею... Разумею і не крыўджуся. Ты прыгожая жанчына, Марына, ты можаш сабе выбраць, а я што?

Ён здымае руку і спрабуе ўстаць, але яна мякка ўтрымлівае яго за шыю:

— Я ж не пра гэта...

— А пра што ж? — здзіўляецца ён.

— Я пра сына... Яму, Міхаську, шосты год пайшоў.

— Ну і што?

— Ягор Ягоравіч, я ведаю... Я думала ўжо. Ён так сабе, ён прывыкне, а я пра цябе. Як убачыш яго, адразу другога ўспомніш... Гэта зараз, калі мы ўдваіх, гэта раз—нічога, два, а як з раніцы да вечара, кожны дзень? Яго няўзлюбіш і мяне папракаць будзеш, а ці ж я вінавата? Мужа я кахала, сам ведаеш, а вось ужо больш двух гадоў, як ты ў душу запаў... Толькі на гора сыну я рабіць не хачу! У бацькі дзяцінства было — спіну не разгінаў, дык хоць сын ведаць гэтага не павінен. Калгас моцна на ногі становіцца, нават людзі падабрэлі, а калі сыну ад маіх пачуццяў толькі гора, навошта тады ўсё? Самі пра новае, добрае жыццё марым, а дзіцяці душу замуцім... А я ведаю такіх мужчын, бачыла: для сябе ледзь не раю хоча, а вакол топча і рые, як свіння ў агародзе. Ты сур'ёзны, а ўсё ж боязна...

— Гэта ты правільна, — уздыхае Ястрабаў. — Я разумею, Марына, ты не думай... Жыццё тут шмат наблытала, што правільна, дык правільна. Толькі я цябе папракаць не стану і сына не пакрыўджу, лепш ужо сам сабе другую нагу адрэжу, калі што... Ты павер ужо!

Прыціснуўшыся да пляча Ястрабава, жанчына плача, але гэта ціхія слёзы, ад якіх бывае толькі палёгка. Ён разумее гэта і сядзіць нейкі час нерухома, не перашкаджаючы ёй выплакацца. Паступова ім авалодвае думка, якую ён спяшаецца выказаць:

— Ты вось што... Хлопчык, мусіць адзін бегае цэлы дзень? Хлапчукі ў нас адчаянныя, і нос паб'юць, і ці мала што... Да мяне прыводзь. Вуду змайструю, няхай прывучаецца, абед самі зварым.

— Людзі такога нагавораць...

— Людзі — яны людзі і ёсць. Яны ў нас неблагія, людзі, усялякага на вяку пабачылі, разумеюць. Ніхто на свеце столькі не перажыў, колькі яны, а нічога сабе, правільна дзейнічаюць!.. Прывядзеш?

— Добра...

Ноч робіцца ўсё цішэйшай, усё глушэйшай. Даўно змоўк гармонік. У лугах за ракой праступаюць плямы і палосы туману, а над ім роўна і ярка свецяць жнівеньскія зоры. Адгрымелі неспакойныя навальніцы, з пажарамі, з градам, якія прыбівалі травы і пасевы, няма белаватага, нібы засланага дымком ліпеньскага неба, і скрозь, на зямлі і ў небе, як бы ўсталёўваецца нейкае зацішша, раўнавага.

— Так і глядзі, як маладыя, да золаку прагуляем! — смяецца жанчына. — Пара і дамоў... Заўтра на машыне за камбайнам працаваць, збожжа прымаць. Прысыпле сонную ў кузаве — вось табе і вяселле.

— У абед не заглянеш?

— Не... Ну, я пайшла...

На нейкую хвіліну ў мораку ночы яны зліваюцца ў адну постаць, затым жанчына хутка падымаецца па сцяжынцы. Яна, засопшыся, спыняецца перадыхнуць на грэбні кручы, на фоне ледзь пасвятлелага неба.

— Марына! — ціха кліча Ястрабаў.

— А?

— Дык ты прысылай хлопчыка, добра?

— Добра.

Ястрабаў застаецца адзін. Спаць яму не хочацца, ён ідзе на мост і там, слухаючы, як між бярвеннямі цурчыць вада, застаецца чакаць плыты. Няярка, але затое, як жывы, блішчыць пад зоркамі струмень на сярэдзіне ракі, і чутно, як на недалёкай вуліцы рыпяць веснічкі...

Пераклад з рускай мовы
**М. СТРАЛЬЦОВА.**

---

# КВЕТКІ ДРУЖБЫ

Імення так — кветкай дружбы хочацца назваць кожны верш, змешчаны ў калектыўным зборніку беларускіх і рускіх паэтаў «Вянок дружбы», выдадзеным у Мінску да Тыдня рускай літаратуры ў Беларусі. Першыя і найбольш прыгожыя кветкі, сагрэтыя гарачымі сэрцамі выдатных мастакоў, паклалі ў гэты цудоўны вянок Максім Горкі і Янка Купала яшчэ тады, калі ў нашай літаратуры толькі зараджаўся метад сацыялістычнага рэалізму.

Рускі і беларускі народы ідуць па адным шляху — шляху, указаным неўміручым Ільічом. Разам прыйшлі яны да Кастрычніцкай рэвалюцыі, разам адстойвалі яе заваёвы ў гады грамадзянскай вайны, разам будавалі мірнае сацыялістычнае жыццё, разам змагаліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны, разам цяпер пачалі будаўніцтва камуністычнага грамадства. Гэта вялікая, непарушная дружба, змацаваная гарачай крывёю лепшых сыноў і дочак народа, будзе жыць у вяках.

Кніга «Вянок дружбы» адлюстроўвае веліч гэтай братняй дружбы. Тут прадстаўлены паэты розных пакаленняў і розных творчых напрамкаў. Вельмі добра, што ў зборніку вершы беларускіх і рускіх паэтаў дадзены на іх родных мовах. За вершамі народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ідуць творы старэйшага рускага паэта лаўрэата Ленінскай прэміі Аляксандра Пракоф'ева, у якіх ён з цёплым пачуццём піша:

А что мне взять в сторонку
братскую?
А ничего!
К друзьям лечу...
Все ж кружку старую солдатскую
На всякий случай захвачу!
(«Еще о дружбе»)

Побач з вершамі народнага паэта Беларусі Якуба Коласа стаяць вершы аднаго з любімейшых паэтаў нашага часу лаўрэата Ленінскай прэміі Аляксандра Твардоўскага. Нямала сцежак ён прайшоў па Беларусі, нямала пачуў мілагучных народных песень, прачытаў вершаў беларускіх паэтаў... Таму ён з вялікай любоўю ўплятае матывы нашых песень у рускае паэтычнае слова. Нас хвалююць яго паэмы «Васілій Цёркін», «Дом ля дарогі» і «За даллю даль», бо ў іх адлюстраваны таленавітай рукой мастака лёс, жыццё і барацьба таксама і беларускага народа.

Мы памятаем яшчэ з часоў вайны цудоўныя вершы Міхаіла Ісакоўскага, прысвечаныя Беларусі. І вось яна, «Беларуская песня», змешчаная ў зборніку, дзе паэт звяртаецца да сваіх братоў і сясцёр — народных мсціўцаў:

Пусть они не сдаются,
Пусть они ожидают,
Для фашистов могилу
Пусть поглубже копают...

Гэтыя словы падтрымкі і любві радавалі і натхнялі беларускі народ, прыдавалі яму сілы ў барацьбе з ворагам. Нездарма гэтыя вершы, як сапраўдныя кветкі, стаяць у вянку дружбы побач з вершам беларускага паэта Аркадзя Куляшова «Над брацкай магілай», у якім расказваецца пра воінаў-беларусаў, што загінулі, абараняючы рускую зямлю:

Ёсць пад Стараю Русай
руская вёска Лажыны.
Там, нібы ў Беларусі,
і вербы растуць і рабіны...
. . . . . . . . .
Там магіла ёсць брацкая ў лузе
за вёскай Лажыны,
Там хлапцы беларускія
чэсна галовы злажылі...

Нямала вершаў прысвяцілі Беларусі Аляксей Суркоў і Канстанцін Сіманаў, якія многа хадзілі па дарогах Беларусі як воіны і карэспандэнты і ў горкія дні адступлення, і ў радасныя дні вызвалення нашай роднай зямлі. Іх франтавыя блакноты былі запоўнены шматлікімі эпізодамі з жыцця і барацьбы беларускага народа, і гэта знайшло сваё адлюстраванне ў вершах, змешчаных у зборніку. Тут і вершы А. Суркова пра дзеда Талаша і пра беларускую зямлю («Белоруссия»), дзе паэт усклікае:

Есть ли мера ярости правой
твоей,
Белорусский народ?

Вялікае ўражанне пакідае і верш К. Сіманава «Майор привез мальчишку на лафете» — пра юнага ўдзельніка абароны Брэсцкай крэпасці.

Цудоўныя вершы прысвяцілі Беларусі і паэты, чыйго голасу, на жаль, мы ўжо ніколі не пачуем. Гэта — Міхаіл Галодны і Уладзімір Лугаўскі. Яны не раз бывалі ў нашай рэспубліцы яшчэ ў даваенныя часы, сябравалі з беларускімі паэтамі.

Мы высока цэнім таксама плённую дзейнасць Якава Хелемскага, які робіць усё для таго, каб лепшыя вершы беларускіх паэтаў дайшлі да ўсесаюзнага чытача. Гэта адзін з лепшых перакладчыкаў нашых паэтычных твораў на рускую мову. Яго верш «Беларускія рэкі» можна аднесці да лепшых здабыткаў сучаснай рускай паэзіі. Цеплыня і лірычнасць, любоў і тонкае адчуванне прыроды надае гэтаму вершу надзвычайную свежасць і цеплыню.

У кнізе змешчаны вершы Максіма Танка, Пятра Глебкі, Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі, Максіма Лужаніна, Піліпа Пестрака, якія ў сваіх творах з такой жа гарачай любоўю пішуць аб рускім народзе і яго баявых і працоўных здабытках.

У вянку дружбы вельмі хараша пераплятаюцца вершы Яраслава Смелякова і Язэпа Пушчы, Дзімітрыя Кедрына і Анатоля Вялюгіна, Мікалая Браўна і Міхася Калачынскага, Вадзіма Шэфнера і Васіля Віткі, Яўгенія Вінакурава і Кастуся Кірэенкі...

Усяго ў зборніку прадстаўлена 60 паэтаў як старэйшага, так і маладога пакалення. Іх творы — пераканаўчае сведчанне ўрачыстасці ленінскай дружбы савецкіх народаў, іх непарушнага адзінства як у цяжкія гады вайны, так і ў мірныя дні будаўніцтва.

Нашых паэтаў звязвае не толькі цеснае творчае адзінства, але і блізкая асабістая дружба. Разам ваявалі на франтах рускія і беларускія паэты, перажывалі адны і тыя ж радасці і нягоды, хваляваліся аднымі думкамі і пачуццямі. І гэта відаць у кожным вершы зборніка.

З поўнай сілай адчуваеш у кнізе подых сённяшняга дня, калі ўся наша неабсяжная савецкая Радзіма ад Брэста да Уладзівастока ператварылася ў гіганцкую будаўнічую пляцоўку.

Прыемна адзначыць, што наша паэтычная моладзь па прыкладу паэтаў старэйшага пакалення жыве стваральным жыццём народа, піша аб народзе і для народа.

Зборнік «Вянок дружбы» прысвечаны Тыдню рускай літаратуры ў Беларусі. Гэта ўжо пяты па ліку Тыдзень братніх літаратур у нашай рэспубліцы, пяты вянок дружбы савецкіх літаратур. Ён праводзіцца ў знамянальныя дні, калі ўся краіна жыве апублікаваным у друку праектам Праграмы будаўніцтва камунізма, калі адбыўся новы велічны палёт у космас савецкага чалавека Германа Цітова.

Вітаючы на беларускай зямлі дарагіх гасцей, рускіх паэтаў і пісьменнікаў, хочацца пажадаць ім новых творчых поспехаў і выказаць надзею, што яшчэ бліжэйшае знаёмства з дасягненнямі нашых рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі натхніць іх на напісанне новых твораў у новы вянок дружбы, які будзе квітнець вечна сваімі прыгожымі кветкамі.

Адно хацелася б сказаць у адрас складальнікаў і выдавецтва, што такія кніжкі трэба друкаваць куды большымі тыражамі. Тры тысячы экземпляраў ніяк не могуць задаволіць чытача. Трэба мець на ўвазе, што кніга надрукавана на дзвюх мовах — рускай і беларускай, а значыць, ёю зацікавяцца і ў Беларусі, і ў Расіі.

**Рыгор НЯХАЙ.**

---

Міхаіл Васільевіч Ісакоўскі — адзін з найлепшых сяброў пісьменнікаў і чытачоў нашай рэспублікі. Па усёй краіне звініць беларуская паэзія ў яго цудоўных перакладах. Кожная сустрэча з гэтым выдатным паэтам шчыра хвалюе.

Не толькі здымак застаўся і ад гэтага спаткання ў Крамлі, у час Трэцяга Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў. Засталіся цяпло сэрцаў, крылаты палёт думак, пачуцці братэрства, вялікай любві.

---

**Якаў ХЕЛЕМСКІ.**

## У майстэрні

*Заіру АЗГУРУ*

Тут мармур, гліна, тэракота,
Неакрылёнай сілы след...
Распачынаецца работа,
Ствараецца нанова свет.
Ён у чаканні распасцёрся,
І вось... ударыў малаток.
Напружаны крутыя торсы,
Відушчых воч яснее зрок.

Ужо разцом рука сумела
І думкі высекчы прамень.
Шчырэе майстар пасівелы
Без адпачынку цэлы дзень.
Заплача камень, заіскрыцца
Святлом усмешак, соллю слёз.
Высокай думкі бліскавіца
Асветліць час, народа лёс.

Не глыбы горбяцца гарою
Пад цёплай мудраю рукой —
Сябры, паплечнікі, героі
Увесь запоўнілі пакой.

Ім цесна без прысад зялёных,
Без плошчаў, што відны з акон.
Адушаўлёных і натхнёных,
Іх не ўтрымаеш пад замком.

Іх будучыня — п'едэсталы,
Кварталы, паркі гарадоў
І плошчаў гулкія авалы
У яснай далечы гадоў.
А вецер б'ецца ля парогу —
Ужо настала іх пара,
І шчодры майстар на дарогу
Жадае веку і дабра.

Ён зноў за працаю, руплівы,
Разец бярэ свае правы:
Свіціцца мармур трапятліва
І камень дыхае, жывы.
Тут пахне глінаю прамоклай,
Шчырэе майстар цэлы дзень.
Шуміць трывожны свет пры
вокнах —
Святло і цень.
Святло і цень...

Пераклаў з рускай
**А. Вялюгін.**

---

**Марыя КАМІСАРАВА**

## Андаба

**У дзікіх пушчах згублены**
**пачатак**
**Павольнай плыні светлае тваёй.**
**Навокал — непраходнае балота,**
**Дрыгва і мох — нічога больш—**
**спакой.**

**Але з якою лёгкасцю вясёлай,**
**Ты раптам з нетраў вырвешся**
**ў прастор,**
**І пацячэш спакойна па даліне,**
**І адлюструеш у глыбінях бор.**

**Па берагах квітнеюць сенажаці,**
**Калгасныя будынкі і сады,**
**Сінее лес і поле зелянее,**
**Шумяць млыны на розныя лады.**

**Барценіха, Лапаціха, Валкуша —**
**Ці мала іх на гэтых берагах!**
**І водмелі то тут, то там**
**жаўцеюць,**
**І грукаюць калёсы па мастах.**

**Паіцелька, карміцелька народа,**
**Жывая сведка радасцей,**
**журбот,**
**Ад беднага забітага Івана**
**Да знатнага Івана нашых год.**

**Ён ловіць рыбу у віры глыбокім,**
**Ён косіць сена ў росны ранні**
**час —**
**Раскінуўся багата і квяціста**
**На беразе іванаўскі калгас.**

**Ой, Андаба, блакітнае раздолле,**
**Праменная, пявучая вада!**
**Спяваюць Дар'і, Мар'і**
**і Параскі,**
**І ў кожнай гонару шчаслівы дар.**

**І мне самой хіба не ганарыцца**
**І на далонь панікнуць галавой,**
**Калі навекі знесла наша гора**
**За сіне мора Андаба з сабой!**

Андаба — рэчка ў Кастрамской вобласці, дзе ў сяле Андрэеўскім нарадзілася паэтэса.

**Пераклаў Алесь Звонак.**

---

# ЦЯПЛО БРАТНЯЙ РУКІ

Сённяшні беларускі тэатр, які дасягнуў высокага ідэйна-мастацкага ўзроўню, сваімі поспехамі ў многім абавязаны перадавой рускай тэатральнай культуры, рускай драматургіі. Ужо ў першы сезон свайго існавання Тэатр імя Янкі Купалы звяртаецца да рускай класічнай драматургіі і ставіць «На дне» Горкага.

У наступныя гады беларускія тэатры паставілі п'есы Горкага, Гогаля, Астроўскага, Сухава-Кабыліна, Талстога, Чэхава і іншых вялікіх рускіх пісьменнікаў, творчасць якіх мела выключна важнае значэнне ў развіцці рэалістычнага майстэрства нацыянальнай сцэны.

На кожным новым этапе развіцця беларускай сцэны, бадай, рашаючае значэнне ў барацьбе за рэалістычнае мастацтва мела руская савецкай драматургія.

Успомнім другую палову 20-х гадоў, калі ў беларускім тэатры асабліва абвастрылася барацьба за сцвярджэнне сучаснай тэмы і яе рэалістычнае ажыццяўленне. Вялікую ролю адыгралі ў гэтай барацьбе пастаноўкі п'ес «Мяцеж» Д. Фурманава і С. Паліванава, «Бронецягнік 14-69» Ус. Іванава і «Разлом» Б. Лаўранёва. Гэтыя пастаноўкі ўзнялі нашы тэатры на больш высокую ступень, памаглі майстрам беларускай сцэны замацавацца на пазіцыях рэалістычнага мастацтва.

У 30-х гадах беларускі тэатр перажываў пераломны этап у сваім жыцці, змагаючыся за творчы метад сацыялістычнага рэалізму. Яму давялося вытрымаць вострую барацьбу супраць антырэалістычных уплываў, у тым ліку і супраць фармалізму. І вось у гэтай барацьбе вялікую дапамогу аказала руская савецкая драматургія, якая і вызначыла поспехі беларускага тэатра на яго новым этапе. Такія спектаклі, як «Жыццё кліча» Ул. Біль-Белацаркоўскага, «Першая конная» Ус. Вішнеўскага, «Байцы» Б. Рамашова, «Мой друг» М. Пагодзіна, «Неспакойная старасць» Л. Рахманава, «Любоў Яравая» К. Транёва, «Машанька» А. Афінагенава і шмат іншых спектакляў з'явіліся той асновай, на якой замацаваліся новыя мастацкія прынцыпы ў беларускіх тэатрах.

Калі ў гады Айчыннай вайны беларускія тэатры здолелі выканаць свой абавязак перад Радзімай, дык у гэтым рашаючая роля зноў-такі належыць рускай драматургіі. Аснову рэпертуару беларускіх тэатраў тых год склалі такія п'есы, як «Нашэсце» Л. Ляонава, «Рускія людзі» К. Сіманава, «Крылатае племя» А. Первенцава і іншыя.

Мы не памылімся, калі скажам, што і за пасляваенныя гады не было ніводнай, колькі-небудзь значнай рускай п'есы на сучасную тэму, якая б не была пастаўлена на беларускай сцэне. Беларускія гледачы ўбачылі спектаклі «Маскоўскі характар» А. Сафронава, «Вялікая сіла» Б. Рамашова, «Голас Амерыкі» Б. Лаўранёва, «Іркуцкую гісторыю» А. Арбузава, «У добры час» В. Розава і многа іншых.

Асабліва вялікая заслуга рускіх савецкіх драматургаў у справе мастацкага стварэння вобраза вялікага Леніна. Іменна рускія драматургі першымі паказалі ў п'есах вобраз Леніна і далі магчымасць тэатрам усіх народаў паспрабаваць свае сілы ў вырашэнні гэтай складанай і пачэснай задачы. На беларускай сцэне з поспехам прайшлі і ідуць п'есы «Чалавек з ружжом», «Крамлёўскія куранты», «Трэцяя, патэтычная» М. Пагодзіна, «Вечная крыніца» Д. Зорына, «Навальнічны год» А. Каплера, у якіх створаны незабыўны вобраз Ільіча.

Майстры беларускай сцэны добра разумеюць, што іх поспехі арганічна звязаны з поспехамі рускага савецкага тэатральнага мастацтва і савецкіх драматургаў. Таму нашым тэатрам і драматургам варта яшчэ больш мацаваць творчыя сувязі з рускай таэтральнай культурай і драматургіяй.

**Ул. НЯФЁД,**
**кандыдат мастацтвазнаўчых навук.**

---

## РАДАСНАЯ ПАДЗЕЯ

Прыезд групы рускіх літаратараў у Беларусь — падзея надзвычай радасная. Тут, сапраўды, найлепшая магчымасць для сустрэч, гутарак, для мацавання шматбаковай дружбы літаратур і братніх народаў нашых.

Кажуць, што правядзенне тыдняў братніх літаратур — гэта добрая традыцыя. Бадай, не толькі добрая традыцыя, — гэта праяўленне глыбіннага закону нашага жыцця, найярчэйшая форма сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, адзнака невычэрпнасці сіл нашай шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

У Беларусі нашы госці знойдуць шчырую і ўдзячную аўдыторыю. Іх словы тут будуць зразумелыя ў самым поўным і сапраўдным сэнсе — зразумелыя па мове і па духу, па сіле гуманістычных ідэй і патрыятычных пачуццяў, па прывабнай прыгажосці дасканалага мастацтва.

Сардэчна вітаем нашых рускіх сяброў!

**Н. ПЕРКІН.**

